# ШТО РОБІЦЬ УПАЎНАВАЖАНЫ ПА ДРУКУ?

Прайшло лета... А за летам паслабла ўвага дзяцей да кніжкі, газэты, часопісі. Аб гэтым гаворыць слабое наведваньне дзяцей у свае бібліотэкі, памяншэньне тыражу газэт, у даным выпадку нашай часопісі. Ідзе школьная вучоба... Трэба налегчы на кніжку, газэту, часопісь. А дзеля гэтага, раней за ўсё, трэба падумаць аб іх распаўсюджваньні. Да гэтага часу ўдзел саміх піонэраў, вучняў у прасоўваньні друку, і ў прыватнасьці нашай часопісі „Беларускі Піонэр", быў вельмі нязначны.

Адсюль—ёсьць многа такіх прыкладаў, калі школа ці піонэрскі атрад зусім ня бачаць у вочы дзіцячай газэты ці часопісі. Ці добра гэта? Бязумоўна, не. Дзеля гэтага трэба, каб самі піонэры, вучні клапаціліся аб пашырэньні свайго друку. З гэтай мэтай *у кожным піонэрскім атрадзе і ў кожнай школе павінен дыць вылучаны ўпаўнаважаны па друку.*

Упаўнаважаны не назначаецца саветам атраду ці павадыром, а выбіраецца на агульным сходзе вучняў школы і зборы атраду; ён-жа перад імі і робіць справаздачу аб сваёй працы. Але гэта яшчэ ня значыць, што ўпаўнаважаны падначальваецца толькі агульнаму сходу. Яго работай штодзенна кіруе і павадыр атраду, і савет атраду, і вучком школы. Часам, калі ўпаўнаважаны дрэнна працуе, яго савет атраду ці вучком можа замяніць другім, далажыўшы аб гэтым агульнаму сходу. Упаўнаважаны праз кожныя 3—4 месяцы перавыбіраецца.

### Якія-ж абавязкі ўпаўнаважанага?

Упаўнаважаны зьвязваецца з рэдакцыяй часопісі „Беларускі Піонэр", ад якой атрымлівае весткі аб адрасох і цане дзіцячых выданьняў, аб парадку выпіскі часопісі, газэты, кніжкі. Для гэтага ён сочыць за аддзелам (у нашай часопісі „Што чытаць", у якім зьмяшчаюцца рэцэнзіі выдадзеных кніжак, і за абвесткамі.

Упаўнаважаны зьбірае ў дзяцей іх думкі адносна прачытаных імі газэт, часопісяй і кніжак і пасылае гэты матар'ял у рэдакцыю; даведваецца, што хочуць дзеці чытаць у часопісі „Беларускі Піонэр", што больш цікавіць іх, якія тэмы—аб чым паведамляе рэдакцыю; організуе са сваім атрадам ці форпостам або вучкомам суд над часопісьсю, газэтай.

Упаўнаважаны сочыць за рэгулярнай прысылкай сваім падпішчыкам адпаведных выпісаных выданьняў. У выпадку недасылкі каму-небудзь часопісі ці газэты, ён паведамляе аб гэтым рэдакцыю.

Упаўнаважаны зьбірае падпіску на часопісь „Беларускі Піонэр" і інш. выданьні. Сьпісы з указаньнем адрасу кожнага падпішчыка, тэрмін выпіскі іх, грошы—усё гэта здае ў бліжэйшае паштовае аддзяленьне, ці агэнту па збору падпіскі.

Упаўнаважаны сочыць за ўказаньнямі, якія зьмяшчаюцца ў часопісі. Прымае актыўнейшы ўдзел у праводзімых кампаніях па пашырэньні падпіскі на часопісь.

Упаўнаважаны зьвязваецца з дзіцячай бібліотэкай, сочыць за выпіскай чытальняй дзіцячых газэт і часопісяй.

Такія абавязкі ўпаўнаважанага па друку.

---

З Ь М Е С Т.



---

Рэдколегія: **Г. Брыгневіч, С. Жураўскі, М. Мамчыц, А. Пякарчык, А. Якімовіч.**

Адказны рэдактар **А. Пякарчык.**

Да змаганьня за справу працоўных, будзь гатоў!

# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**
На 1 месяц . . . . — р. 20 к.
„ 3 „ . . . . — р. 60 к.
„ 6 „ . . . . 1 р. 20 к.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ. Орган ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

**№ 21** **ЛІСТАПАД** **1927 г.**

## УНОШУ ПРАПАНОВУ.

Мне здаецца, што яшчэ шмат якія піонэры і вучні ня чытаюць сваёй часопісі „Беларускі Піонэр“. Вазьму прыклад са свайго атраду і школы. У атрадзе выпісваецца толькі адзін экзэмпляр,—той, што я выпісваю разам з аднэй піонэркай. У школе да апошняга часу ніводнага экзэмпляра. Адкуль-жа могуць усе чытаць?

Калі я пачала паказваць сваю часопісь „Беларускі Піонэр“ некаторым піонэрам і вучням атрада і школы, то яны зацікавіліся ёю. Зараз многа таварышоў прыходзяць да мяне на кватэру чытаць часопісь, з якіх двое падпісаліся ўжо на „Беларускі Піонэр“ на лістапад месяц. Акрам я гэтага, мы яшчэ зацікавілі гэтай справай некалькі чалавек вучняў нашай школы, якія колектыўна зьбіраюць ужо грошы на падпіску.



Я ўношу такую прапанову:

*Каб кожны падпішчык і чытач часопісі „Беларускі Піонэр“ завербаваў ня менш, як аднаго новага падпішчыка на сваю часопісь.*

Падпішчыкам на „Бел. Піонэр“ раю зрабіць так: узяць з сабою часопісь у атрад ці ў сваю клясу (так рабіла і я), дзе ў час перапынку трэба паказваць і азнаёміць вучняў ці піонэраў з часопісьсю і расказаць ім, якім парадкам можна выпісаць яе.

Упэўнена, што ўсе падпішчыкі зробяць гэтак.

Піонэрка
**В. Тарачук.**

Сымон Баранаў.

# ХЛОПЧЫК ПЯТРУЧОК.

*(Апавяданьне).*

— Уставай, мой сынок, уставай, Пятручок. Умыешся, дык і сон пройдзе. Я табе пасьнедаць дам і ў торбачку возьмеш...

— Уставай, маё дзіцятка, ды сходзіш...

І Пятручок, дзесяцігадовы хлопчык, падняўся і сеў на ложку. Ён пачухаў каля вуха, потым пад пахаю, а калі Хрысьціна, яго маці, трымала над цабэркам конаўку халоднай вады, саскочыў з ложку ды пачаў умывацца.

Вялікае гора было ў Хрысьціны: яе сямёхгадовая дзяўчынка Настуля ляжала пры сьмерці.

— Вось нічога ані ў рот, акрамя калі жыжачкі з крупніку паспрабуе, ды і тую вырве, вытузае зразу-ж, —плакала Хрысьціна, жалілася суседцы Макрыне, якая прыходзіла даведацца яе дзіцяці.

—Спалохана. Пярэпалахі трэба выкачаць—вырашы латая.

Але Хрысьціна казала, што яна ўжо заклікала Паладзю, два разы нават, дык горай яшчэ: паліць пачало.

— Ну, дык не сядзець-жа, злажыўшы рукі,—бедавала Макрына далей:—а трэба шукаць якога-небудзь ратунку,—казала яна.—Да Воўка трэба даведацца, вады прынесьці: і калі на сьмерць—памрэ зразу: кавэнчыцца ня будзе, а не,—папраўляцца пачне.

Хрысьціна і сама ведала гэта, але што значыла для яе матчынага пачуцьця—„кавэнчыцца ня будзе, памрэ зразу?“ І яна, тоячы ў сваім сэрцы вялікі жаль, адкладвала страшэнную думку „на заўтра“.

— Хоць хворая пабудзе ў маім позірку,—разважала Хрысьціна:—бо гэты смуглы, маўклівы, вечна бяз сьмеху, стары дзед—абавязкова вырашыць лёс маёй дачушкі.

Але цяпер у такі цяжкі час, калі зусім была малая надзея на дзяўчынку, Хрысьціна канчаткова вырашыла паслаць Пятручка за вадою. Вось загэтым і ўспарола яна яго так рана.

— На-ж табе рубель грошай,—казала Хрысьціна, калі Пятручок надзяваў шапку,—а калі будзе мала—скажаш, аддадзім... Бутэльку я разам з хлебам у торбачку ўлажыла,—дадала яна, і Пятручок вышаў з хаты.



. . . вядомы на ўсю ваколіцу знахар.

Сонца толькі што паднялося. Раніца была маўклівая, росная. І толькі пастухі нарушалі гэтую маўклівасьць, бо кожны хацеў паказаць сваю здольнасьць іграць у трубу. А Пятручок ішоў з сваімі дзіцячымі развагамі, ішоў за тым, за чым паслала матка.

Ён ужо мінуў поле, вышаў на луг і пайшоў на цянькі, каля рэчкі.

Дарога яму добра была вядома: лугам каля рэчкі, цераз лес, а за лесам дзевяць вёрст да Амшарнікаў, дзе і жыў Воўк, вядомы на ўсю ваколіцу знахар.

— Хто-ж сходзіць?.. Трэба схадзіць...—разважаў Пятручок, ідучы.—А яна, бедненькая, так стогне... Усю ноч я ня спаў... Цяжка стагнала... Мне нават хацелася плакаць... Я думаў, што яна канае... Бедненькая... Хто-ж сходзіць?..

І Пятручок ад цяжкіх разваг пераходзіў з сваімі думкамі да шклавіднае люстранае рэчкі.

Ён ішоў, углядаўся ў празрыстую ваду, якую чуць-чуць зьлёгку карбаваў маленькі

нячутны для твару ветрык. А то і кружочкамі разьбягалася вада, і тады была думка ў Пятручка: „ваду, мусіць, п‘е рыбка“.

Ён агібаў адзін за другім крывыя павароты рэчкі.

Бацькі ў Пятручка ня было: ён не зьвярнуўся з расчыненага жорала вайны, якая праглынула яго, як глытае полымя камара, што кружыцца ў цёплым дыме запаленага дому.

— Бяз вестак прапаў,—плакала часта Хрысьціна і гэтак жыла, гадавала дзяцей, ускладала на іх свае надзеі.

— Вырастуць—да сьмерці дахаваюць, прыгорнуць костачкі,—цешыла сябе думкаю...

Сонца ўжо сходзіла з паўдня, як Пятручок зьбіраўся пакінуць рэчку. Яно цяпер прыпякала ў яго загарэўшую шыю і трамаціла яго зірк. Паветра было застыўшае, густое.

— Сяду,—вырашыла дзіцянё,—адпачну.

І ён сеў на сакавітую, мяккую траву каля ракітавага куста.

Навакол шалясьцела лісьце ракіты ды беленькі матылёк непадалёку рабіў кружкі—лукаціў паветра, а потым сеў на лісток.

Пятручок дастаў свой полудзень.

За кустам ціха булькала рэчка, нібы іграла яна нейкую песьню.

Пятручок папалуднаваў, напіўся з рэчкі і прылёг—на хвіліну прылёг. Ён ляжаў дагары, як пласт, глядзеў у блакітнае неба. Доўга ў адзін пункт глядзеў.

Але вось пунктператварыўся ў шэрую пляму, вочы гублялі яго, знаходзілі і ізноў, і ізноў гублялі...

Па целе распаўзалася прыемная асалода, якая абхінала яго сваімі спакойнымі марамі.

Было прыемна, хораша, мякка і ціха. Яшчэ і яшчэ паказалася ў ваччу шэрая пляма і потым замятусілася і зьнікла.

Ён заснуў і спаў моцным дзіцячым сном, падлажыўшы пад галаву ручку, локаць якой прасьвечваўся праз прадраную срэбную кашулю.

Ён спаў, а дома маці чакала вады—чароўнай сілы чакала, якая павінна адратаваць яе дарагое сэрцу дзіця. Але хіба ён вінаваты ў гэтым? Хіба ён ня імкнуўся выратаваць маладое жыцьцё?..

І ён спаў, а сонца не чакала,—плыло да невядомага кругавіду.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Прачніся... Устань...—бубнілі ў вуха невядомыя шэпты.

— Ты-ж старэйшы... Ніхто-ж не паможа... Устань...—зноў не адставалі абрыдлыя шэпты, і ён адчыніў вочы.

— Што я скажу дома!—вырваўся дзіцячы плач, калі Пятручок глянуў на сонца.

— Яна памірае. Яна мо‘ памерла... Што я зрабіў...—застагнаў ён ізноў. А сонца павісала над лесам. Астатняя пазалота хутка зьбіралася пагаснуць. І тады кінуўся бегчы, каб да поўнага змроку да дому дабегчы.

— Што?.. Што?.. Што я скажу?—бег Пятручок з гнятучаю думкаю ў сваім нутры.

— Дома ня было,—скажу,—мільганула ў яго галаве, але момант, і ён зажмурыў вочы.

— Ой, не,—застагнаў Пятручок.—Ой, не. Гэты стары дзед—Воўк ніколі ня вылазіць з сваёй пакрыўленай на бок хаты. Колькі хадзіў, заўсёды заставаў... З маммаю хадзіў да Воўка, як мне балела горла... Адзін хадзіў мамцы вады, як спалохалася пры адступленьні... Колькі хадзіў, заставаў...

— А Воўк усё-ж не памог матцы... Памерла-б, каб дзядзька Цімох ня прывёз таго чалавека ў вакулярах... Пастукаў нейкаю трубкаю, паслухаў праз худыя грудзі, ды даў у гэтакай маленькай бу-



— Буль-буль-буль,—бегла вада праз вузкае рыльца.

тэльцы нейкай чорнай вады... Ня гэтулькі, як Воўк... А памагла...

— А як моцна спужалася тады!.. У ногі цалавала тоўстаму паляку з рыжымі

вусамі, каб не запальваў нашай хаты... А ён, нібы дурны: думаў, што ў нас ёсьць конь... Дзядзька-ж Цімох засяваў тады нам поле. Цяпер дык вось купілі... Бедная матка, як яна спужалася... Добры быў чалавек у акулярах...

Ен бег, разважаў, ставіў пытаньні і не знаходзіў выйсьця з свайго сьлёзнага становішча.

Сонца ўжо зайшло. Яго празрыстая ружавізна густа асядала на гострыя верхавіны лесу. Ад рэчкі ўсплываў туман, які пластам распаўзаўся па-над маўклівай, вечна задумёнаю вадою. І тады яго дробныя капелькі асядалі на траву, рабілі яе больш сакавітаю, крохкаю.

А вось і зорачка вынырнула з бяздоньня густога блакіту ды пачала моргаць сваімі рожкамі. Жукі прарэзвалі паветра. А там недзе пасярод лугу квактуха закумкала, яе падхапіла другая, трэцяя... і бязупынныя песьні жыхароў балота рассыпаліся па ваколічных абшарах.



А Пятручок слухаў тады, слухаў ды усьміхаўся.

І тады музыка прыроды глушыла дзяцінную журбу, якая вылівалася буйнымі, як боб, сьлязьмі.

— Што я скажу?.. Што... Што...

І Пятручок супыніўся—пайшоў крокам. Да дому заставалася вярсты паўтары. Ён цяпер увайшоў у добра знаёмыя месцы, ад чаго баязьлівасьць з надыходам ночы зьнікала.

Ён ішоў каля рэчкі, тэю самаю сьцежкаю і глядзеў, як цягнецца туман, адчуваў, як сьціскаецца, б'ецца сэрца.

— Набяру... Мімавольна, незразумела для яго нават, ці можа ён выканаць гэтае слова, прамчалася думка ў дзіцячым розуме.

— Набяры...—нібы шапнуў на вуха нейчы голас, і ён застанавіўся—дастаў бутэльку.

— Буль-буль-буль...—бегла вада праз вузкае рыла, і ён набраў. Адліў трошкі назад—гэтулькі набраў, колькі даваў стары Воўк.

А тады... ашчупаўшы за пазухаю грошы, пайшоў памаленьку з сталаю адвагаю да хаты.

Сырызна, праз якую хварэла Хрысьцініна дзяўчынка Настуля, амаль не давяла да яе сьмерці. Дзяўчачка хварэла халярынаю.

Пасьля крызісу Настуля хутка пачала папраўляцца. Цераз тыдзень, у адну з раніц, Настуля нават сама ўстала з ложку ды папрасіла есьці.

І тады:

— Вялікі чалавек!..

— Усемагутная сіла!..

А Макрына з гурту сабраўшыхся ў Хрысьціны баб нават крыкнула:

— Мяртвых васкрашае...

І ўся гэтая хвала старому Воўку, нібы на хвалях шырокавяшчальнае радыёстанцыі, разьляталася па абшарах.

А Пятручок?

А Пятручок слухаў тады сваім маладым дзіцячым розумам бабскі гоман.

Слухаў ды ўсьміхаўся...





Апавяданьне **Н. Беліна-Падгаецкага.** Малюнкі **М. Філіповіча.**

Калі-б Ахмэд Абдалла жыў у якім-небудзь вялікім узьбярэжным горадзе, ён можа-б і навучыўся ўрэшце трохі лепш разьбірацца ў бягучых падзеях і адрозьніваць сваіх ворагаў ад прыхільнікаў. Але Ахмэд Абдалла, як і яго бацькі і продкі, жыў далёка ў глушы Мароканскіх гор, удалі ад усялякіх культурных цэнтраў. Толькі вельмі рэдка, разы два, а то і менш, на год, спускаўся ён к мору для таго, каб купіць сабе неабходных у беднай гаспадарцы тавараў ды прадаць сваіх бараноў і авец.

Пазнаёміцца з „культурай“ белых французаў, якія ўладалі беднымі мароканцамі яму давялося вельмі рана. Выявілася гэта знаёмства ў тым, што яго, тады яшчэ васьмёхгадовага хлопчыка, жорстка высек афіцэр сваім пякучым бізуном, а сястру яго іншыя афіцэры чуць не забілі. Гэта было тады, калі да іх прыходзіў карацельны французскі атрад... Гэты ўдар афіцэрскага бізуна пакінуў на ўсё жыцьцё сьлед ня толькі на целе, але і на сэрцы і на душы Ахмэда. Гэты ўдар як-быццам прыцісьнуў да самай зямлі сьвядомасьць і ўсё жыцьцё Ахмэда і доўга трымаў яго ў сваіх кіпцюрах. І толькі ў даволі прыгожых вялікіх вачох яго як-быццам застыгла на век неразгаднае для яго пытаньне: за што біў яго высокі афіцэр, за што зьняважылі ды білі яго сястру, за што разбурылі бедную бацькаву гаспадарку і забралі ўсіх бараноў і авец?

* * *

Прайшло шмат гадоў. Доўга цярпелі свабодалюбівыя рыфы зьдзекі сваіх гішпанскіх і французскіх гвалтаўнікоў, доўга маўчалі ім, сьціснуўшы зубы і кулакі і патаемна рыхтуючыся да крывавай барацьбы. Але вось спачатку высока ў гарах, а пасьля ўсё ніжэй і ніжэй пачаў разносіцца кліч барацьбы супроць уладароў беднага народу. Абдэль-Крым, сьмелы нацыянальны правадыр, узьняў сьцяг адчыненага і рашучага паўстаньня, і да яго пачалі зьбірацца ўсе здольныя насіць зброю, усе, хто імкнуўся вызваліцца ад уціску. Буржуазія ўсяго сьвету захвалявалася, дрыжыкі схапілі яе ад такога паўстаньня. Страціць заводы і фабрыкі ў сваіх афрыканскіх маёнтках, страціць танных для работы людзей—гэта было буржуазіі неўявіма! А пагэтаму буржуазія выкінула кліч—вайна супроць гэтых „дзікіх пляменьняў“, якія не жадаюць адчуваць на сабе ўсіх „прыемнасьцяй“ ад франка-гішпанскай буржуазіі.

І вайна пачалася—жорсткая, крывавая, лютая. Вайна першаклясных эўропэйскіх дзяржаў супроць маленькага свабодалюбівага народу, якія толькі патрабуе сваёй незалежнасьці, свайго права на жыцьцё!

Ахмэд Абдалла, ня гледзячы на свой шаснаццацігадовы ўзрост, быў мобілізаваны французамі ў „дабраахвотніцкія“ атрады, і з захаванай, ціхай нянавісьцю ў душы цягнуў незавіднае жыцьцё вай-

скоўца, як і іншыя яго таварышы. Спрачацца было нельга, бо суд быў тут-жа на месцы, гэты суд азначаў—расстрэл... Цяжка было пераносіць Ахмэду гэткую горкую долю пад палкамі начальства, страляючы супроць сваіх... Часта марыў Ахмэд уцячы з арміі ў горы да сваіх братоў па змаганьні, далучыцца да іх і разам з імі весьці барацьбу супроць гэтых гордых і жорсціх чужаземцаў. Але гэта ня так лёгка было зрабіць. Французы ўважліва сачылі за сваімі „партызанамі“ і кожную такую спробу перасякалі расстрэлам вінаватых. Дый, апрача таго, вёска, адкуль паходзіў дэзэртыр, зьнішчалася дашчэнту, усё племя выкуплялася ад сьмерці за вялікую цану, а бліжэйшыя сваякі адказвалі сваёй галавой.

Гэтак франка-гішпанская буржуазія насаджвае і насаджвала сваю культуру сярод афрыканскіх народнасьцяй, гэтак яна „падтрымлівала парадак“, гэтак яна садзейнічала „ўспакаеньню“ паўстаўшых супроць яе-ж бязьлітаснай эксплёатацыі рыфаў.

* * *

Мараканскае сонца горача пячэ, сьлепячы вочы, выклікаючы страшэнную смагу, якую нічым не супакоіш, робячы салдацкія ранцы стрэльбы яшчэ больш цяжэйшымі.

Бясконца доўгім ланцугом цягнуцца салдаты—сучасныя рабы капіталу, перадзетыя ў бялява-сінія вайсковыя касьцюмы. Цягнуцца яны на ўбой, каб забіваць іншых сабе падобных пролетарыяў, ня ведаючы таго, за што страляюць яны ў сваіх-жа братоў. Ня ведаў, ня мог растлумачыць сабе гэтага і Ахмэд Абдалла. Але ўсё-ж такі йшоў ён на верную сьмерць, бо ззаду сьмерць была таксама няўхільнай, за першае-ж непаслушэнства Ахмэд-Абдалла мог зразу-ж атрымаць кулю. А ззаду і з бакоў гэтай колёны ехалі на конях людзі ў дарагіх адзеньнях, і падганялі адстаючых нагайкамі. Калі-ж хтонебудзь з салдат стамляўся і ня мог далей ісьці, гэта лічылася яўным нежаданьнем слухацца францускай улады, і такіх бяз жалю прыстрэльвалі тут-жа на месцы бяз суда і расправы.



*Цяжка было пераносіць Ахмэду гэткую горкую долю пад палкамі начальства...*

* * *

Раніцай наступнага дню начальнік атраду загадаў пастроіць прыбыўшую ўвечары колёну на вясковым пляцы, каб можна было зрабіць агляд войска перад надыходам агульнага наступу супроць ворага.

Калі Ахмэд-Абдалла ўбачыў з сваёй другой шарэнгі гордага і строгага камандзіра, які набліжаўся сюды на вараным кані, вочы яго зазьзялі пякучай нянавісьцю, і рука нэрвова сьціснула дула вінтоўкі. Ён пазнаў у асобе гэтага афіцэра свайго ворага, таго, хто шмат гадоў таму назад разбурыў усю гаспадарку Ахмэда і пакінуў ад свайго бізунаназаўсёды крывавы сьлед на яго твары. І тут-жа сьмелая і рашучая думка вынікла ў галаве Ахмэда: адамсьціцца крывёй гэтаму праклятаму афіцэру, адамсьціцца і за сястру, і за сябе, і за ўсіх, усіх, хто перанёс вялізарныя мукі і гора ад рукі і жаданьняў гэтага гордага афіцэра.

— Гяур пракляты!—прашаптаў Ахмэд скрозь сьціснутыя зубы: ты адкажаш за ўсё пад адным рашучым і сьмелым узмахам кінжала.

І гаручы адпомствы погляд зазьзяў і схаваўся пад густымі брывямі Ахмэда.

* * *

А калі цёмная цёплая ноч спусьцілася на зямлю, калі ўсё ў вайсковым лягеры заснула моцным сном, калі толькі мер-

ныя крокі вартаўнікоў парушалі цішыню, тады, крадучыся і азіраючыся па бакох, вышаў Ахмэд са сваёй палаткі. Праверыў ён пры срэбным месячным сьвеце войстрасьць свайго кінжала і паціханьку накіраваўся да палаткі камандзіра, над якой горда ўзьвіваўся ў паветры трохкаляровы сьцяг францускай рэспублікі . . .

. . . . . . . . . . .

Штосьці цяжкое, агністае ўпала на грудзі соннага камандзіра Дэдранса...

— Умірай-жа, кат пракляты!

І гострае лязо кінжала, занесенага з усяго размаху, глыбока упілося ў сэрца францускага афіцэра...



*...І так бяз жалю прыстрэльвалі тут-жа на месцы, бяз суда...*

* * *

Наляцеўшая ўзброеная варта арыштавала Ахмэда на месцы злачынства. Ён не спрачаўся, не аднеківаўся нічым, а толькі праз перакладчыка падрабязна расказаў, чаму ён гэтак зрабіў. Ён не прасіў паратунку, бо ведаў, што яму дараваць ня могуць, і раніцой наступнага дню на шырокім вясковым пляцы перад вачыма ўсіх салдат яго доўга і ўпарта білі тонкімі палкамі, білі да таго часу, пакуль ён ня ўпаў, абліваючыся крывёй, на гарачы пясок. А пасьля прыстрэлілі яго, кінуўшы халоднае акрываўленае цела тут-жа на пляцы для драпежных зьвяроў.

Гэтак скончыў сваё горкае жыцьцё Ахмэд-Абдалла...

## Летнім вечарам.

Мільгацяцца ў небе зоркі
І сьмяюцца палахліва...
Дзесь далёка—там за горкай
Месяц цешыцца ігрыва.
Тут і там зьнікаюць далі,
Ціха сёньня навакола,
Толькі Сьвіслач буйнай хваляй
Заіграў з зялёным долам.
Шлях прыгожа-васільковы
З ветрам шэпчацца гульлівым,
Дзесь адбіўся блеск сталёвы
На травіцы, на шумлівай.

То ідуць касцы з касамі
Ад загону к роднай вёсцы,
І ліюцца над палямі
Новых песень адгалоскі...
Прагудзіць далёка вецер,
Зашуміць прыгожым сьпевам:
То ляціць па сінім сьвеце,
То схаваецца за дрэва.
Мільгацяцца ў небе зоркі
І сьмяюцца над ракою.
Выплыў месяц там за горкай
Цёмны твар зямлі цалуе...

**Ал. Розна.**



# Прырода—навука—тэхніка.

## Перадача вобразаў па радыё.

Напэўна кожны піонэр чуў аб радыё—гэтай цудоўнай вынаходцы, пры дапамозе якой можна без усялякага дроту перадаваць на далёкія адлегласьці тэлеграфныя сыгналы, чалавечую мову і музыку.

Усяго толькі трыццаць два гады таму назад радыё вынайдзена было расійскім вучоным Паповым, але і за гэты кароткі час яно зрабіла вялікія посьпехі. Для таго, каб уявіць сабе, як вялікі гэтыя посьпехі, даволі ўспомніць, што першая радыё-тэлеграфная станцыя перадавала тэлеграмы на адлегласьці 3-х вёрст, цяпер-жа па радыё можна перамаўляцца са ўсім сьветам.

Ва ўсіх буйных гарадох Амэрыкі, Эўропы, Азіі маюцца шыракавяшчальныя радыё-станцыі, якія штодзенна перадаюць розныя палітычныя навіны, опэры і концэрты. Лік прыхільнікаў радыё ўзрастае з кожным днём. Радыё стала магутным сродкам зносін, барацьбы і агітацыі.

Апрача перадачы мовы і музыкі, у апошні час пачаліся перадачы *вобразаў* па радыё.

Думка аб перадачы вобразаў на далёкія адлегласьці ўзьнікла яшчэ да вынаходкі радыё, гадоў 50 таму назад, аднак ажыцьцявіць гэту перадачу, з прычыны адсутнасьці адпаведных апаратаў, не ўдалося. Толькі ў апошні час працы ў гэтай галіне як за межамі, так і ў нас, у СССР, справа пасунулася значна ўперад.

Перад вучонымі радыё-спэцыялістымі, якія працуюць над вынаходкай апаратаў для перадачы вобразаў па радыё, стаяць тры галоўныя задачы.

Першай, найбольш лёгкай і ўжо разьвязанай задачай, зьяўляецца перадача па радыё штрыхавых вобразаў. Ёсьць некалькі способаў перадачы штрыхавых малюнкаў, але ўсе яны мала чым адрозьніваюцца адзін ад другога. Мы ня будзем апісваць гэты спосаб з прычыны таго, што яго практычнае значэньне не асабліва вялікае. Скажам толькі, што пры гэтым спосабе на прыёмнай радыё-станцыі малюнак выкрэсьліваецца на чыстай паперы звычайнымі атрамэнтавымі рыскамі. Расійскаму вучонаму Шорыну ўдалося прыдумаць вельмі простыя апараты для перадачы і прыёму штрыхавых вобразаў. У хуткім часе нашы заводы выпусьцяць у продаж такія апараты для радыёаматараў.



*Штрыхавы малюнак, перададзены па радыё.*

На перадачу аднаго малюнку спосабам Шорына патрэбна каля дзьвёх хвілін. Другая, больш цікавая, але ў той-жа час больш цяжкая задача, гэта перадача фотографічных вобразаў па радыё, ці так званая „радыё-фото-перадача".

Лепшым спосабам радыё-перадачы лічыцца спосаб нямецкага вучонага Каролюса і нямецкай фільмы „Тэлефункэн".

Апарат для перадачы фотографій спосабам „Каролюс-Тэлефункэн" складаецца з дзьвёх частах: перадаючай і прыёмнай. У перадаючай частцы на асобны барабан накручваецца паперка з вобразам, які хочуць перадаць. Гэты барабан круціцца і асьвятляецца вузкім пучком моцнага сьвятла. Прамяньні сьвятла, адбіваюцца ад барабана і падаюць на асобны „фотоэлемэнт". У гэтым

„фотоэлемэнце“ ўзьнікае электрычны ток рознай сілы, у залежнасьці ад таго, якая часьць малюнку (сьветлая ці цёмная) асьвятлялася ў даны момант. Электрычны ток трапляе ў звычайны радыё-перадатчык, які перапрацоўвае яго ў электрычныя хвалі рознай сілы і пасылае іх у прастору.

На прыёмнай радыё-станцыі маецца такі самы апарат, але на барабан яго накручваецца ня звычайная, а чыстая фотографічная папера; апрача таго, тамжа знаходзіцца лямпавы радыё-прыёмнік.

Электрычныя хвалі, трапляючы на прыёмную станцыю, пераапрацоўваюцца ў сьветавыя сыгналы, якія даюць на фотографічнай паперы адбітак прынятага вобразу. Прынятая такім чынам фотографія нічым не адрозьніваецца ад орыгіналу і можа быць размножана ў якой хочаш колькасьці. Трэба адзначыць, што для таго, каб адбітак вобразу быў удалым, неабходна, каб барабаны на перадаючай і прыёмачнай радыё-станцыях круціліся *аднагасова* і з *аднолькавай* хуткасьцю. У памянёных апаратах гэта дасягаецца асобнымі мэханізмамі. Спосабам Каролюса можна перадаваць ня толькі малюнкі, але і рукапісы (напр., газэты). Хуткасьць перадачы 3.000 слоў ў хвіліну.

Цяпер ужо наладжана рэгулярная перадача вобразаў па радыё паміж Амэрыкай і Англіяй, прычым на перадачу аднаго вобразу патрэбна ўсяго некалькі сэкунд.

Такія-ж перадачы пачнуцца хутка і ў нашым Саюзе. Нядаўна Наркампоштэль зрабіў умову з фірмай „Тэлефункэн-Каролюс“ аб устаноўцы ў Маскве апаратаў для перадачы фотографічных вобразаў па радыё паміж Бэрлінам і Масквой.

Нарэшце, трэба спыніцца на апошняй, самай цяжкай задачы ў галіне перадачы вобразаў па радыё—гэта на перадачы вобразаў прадметаў, якія рухаюцца.

У гэтай галіне досыць значных посьпехаў дасягнуў наш савецкі вучоны Тэрмэн. Яго працы носяць пакуль што вопытны характар, але і дасягнутыя ўжо вынікі сьведчаць аб тым, што і гэта задача ў хуткім часе будзе разьвязана.

Тады можна будзе ня толькі слухаць концэрты і опэры, але і бачыць тое, што робіцца на сцэне.

Чалавецтва ўпіша яшчэ адну слаўную старонку ў гісторыю барацьбы за заваёву прасторы і прыроды.

**В. С.**

▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼

# Расьліны-драпежнікі.

Год ці два назад у амэрыканскіх газэтах было абвешчана, што нейкія падарожнікі Паўднёвай Амэрыкі трапілі ў ў першабытны лес, дзе іх былі злавілі і ледзь ня зьелі... дрэвы. Адно такое дрэва нібы абхапіла сваёй галінай чалавека, пачало душыць яго і павольна прыцягваць да свайго рота. Ротам гэтым зьяўлялася вялізная кветка, або жмут лісьця з паглыбленьнем у сярэдзіне. Таварыш вызваліў падарожніка адсекшы дрэву „лапы“.

Ці можна даць веры гэткаму апавяданьню? Мусіць, не, бо ніхто яшчэ татога зьявішча ня бачыў ні раней, ні пазьней. Тым болей, як гэта мы далей убачым, самае апісаньне зусім непраўдападобнае.

Але сёлета ізноў зьявілася падобнае абвяшчэньне. На гэты раз гутарка ідзе аб востраве Мадагаскары (на ўсход ад Афрыкі) і кажа аб гэтым нібы батанік (вучоны, які вывучае расьліны). Нават падрабязна апісвае гэтае дрэва. Яно тоўстае, але нізкае. Ад пня адходзіць лісьце даўжынёю 4 мэтры і шырынёю—адзін. Гэтае лісьце сьцелецца па зямлі. І калі жывёла трапіць хоць на адзін з іх, дык усе яны з шумам уздымаюцца і захлопваюць ахвяру.

*Падарожнік* нібы бачыў рэлігійную цэрамонію тубыльцаў, калі наўмысьля была аддадзена дрэву жанчына (зноў апісваецца падрабязна, як жанчыне зьвязалі рукі і спуталі ногі, а потым вострымі пікамі пачалі штырхаць яе да лісьця. Яна ўпіралася, плакала, з жахам пазірала на гэта лісьце, а калі нарэшце закранула іх, дык яны захлопнулі яе.

А праз 10 дзён уся яна была зьезьдзена, застаўся толькі касьцяк. А лісьце спа-



*Расьліна, якая ловіць кузурак.*

койна ляжала, распасьцёршыся па зямлі, і чакала новай здабычы.

На гэты раз сьведчаньне больш пэўнае: дае яго вучоны і нават апісвае падрабязнасьці. Ці можна гэтаму верыць?

І на гэты раз трэба адказаць таксама: пакуль ніхто гэтага больш ня бачыў, пакуль навука не пераканалася ў праўдзівасьці зьявішча, сьцьвярджаць нічога нельга. Навука ведае шмат здарэньняў, калі ў падобных выпадках бывалі ці памылкі, ці мана, нават нявольная, напр., калі чалавек сам ня бачыў, а паверыў другому.

Але чаму-ж усё-ткі сур'ёзныя людзі гавораць і пішуць аб гэтым? Калі-б хто-небудзь сказаў аб іншым дзіве, напр., што авёс напаў на пшаніцу і пачалася бойка,—аб гэтым ніхто і слухаць не хацеў-бы, а тутака нават друкуюць.

Справа ў тым, што такое дзіва ўжо існуе на сьвеце і вядома кожнаму школьніку, напр., невялічкая балотная трава-расянка, якая расьце і ў нашых краёх.

Розьніца толькі ў тым, што яна можа лавіць і есьці толькі маленькіх мошак і жучкоў. Лісьце яе таксама распасьцёрта па зямлі, але ловіць яна здабычу ня ўсім лістом, а валасочкамі, якія знаходзяцца на ім.

Амэрыканская сарацэнія крыху большая за расянку, зьядае і большых казюлек. Яе лісьце ляжыць на зямлі, як міскі з вадой, дзе топяцца жывёлы, а потым зьядаюцца.

А яшчэ адна амэрыканская расьліна, так званая „венэрыша мухалоўка“ дык і зусім падобна да мадагаскарскага дрэва: яе лісьце таксама захлопваецца, і гэты рух лічыцца самым моцным і жвавым рухам, які толькі можа быць у расьлін.

Ёсьць і яшчэ шмат драпежных расьлін, пабудаваных інакш. Замест распасьцёртага лісьця яны маюць нібы бутэлечкі, або збанкі, куды трапляюць казюлькі.

Якім-жа чынам расьліна есьць іх? Вучоныя дасьледвалі той сок, куды трапляюць жывёлы, і знайшлі, што ён такі самы, як, наогул, і ў нашым страўніку. Значыцца, жывёла пераварваецца ў гэтым соку, як у страўніку чалавека ці зьвера.

Кажуць, што некаторыя больш вялікія і моцныя расьліны могуць зьесьці маленькую птушку, мышку ці жабу. Зразумела, такія расьліны могуць быць толькі ў цёплых краёх, дзе яны маюць досыць цяпла і вільгаці.

Ну, а калі такую расьліну добра падкарміць, ці змагла-б яна настолькі падрасьці і памацнець, каб зьесьці пацука? Гэтага пакуль што мы ня ведаем, але дапусьцім, як мы бачым, магчыма. А тады ўжо зьявіцца пытаньне: калі можа быць расьліна, якая зьядае пацука, дык чаму-ж ня можа быць дужэйшая, якая здолее зьесьці зайца, авечку і г. д.?

Вось чаму весткі аб мадагаскарскім дрэве заслугоўваюць увагі.

Можа гэта няпраўда, можа хто-небудзь выдумаў, і пэўна гэта так і ёсьць, бо ня можа быць, каб дагэтуль ніхто яго ня бачыў,—але мы ня зьдзівіліся-б, каб усё гэта зьявілася і сапраўднасьцю.

**Я. М.**

▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼

# Жывёлы-будаўнікі.

*(Нарыс з жыцьця баброў).*

Кожны з вас чуў пра баброў, кожны ведае, што яны добра будуюць сабе дамы, але, мусіць, ня кожны ведае, як яны працуюць.

Дамы або вёскі іх стаяць у вадзе, але падлога знаходзіцца вышэй узроўню, так што пакоі сухія. А сярод вады яны селяцца дзеля таго, каб вораг не дастугіўся. Ля хаты будуецца сьвіран, дзе захоўваюцца на зіму запасы кары і маладога гальля.

Дом будуецца з бярвеньняў і шчыльна замазваецца глінай. Фундамант акопваецца, як у нас прызбы. А дах абкладваецца дзёрнам і моцна прыбіваецца хвастом. Пры гэтым здалёку



*Бабры за працай.*

чуцен такі стук, быццам бабы пранікамі б'юць бялізну.

Матар'ялам служаць маладыя дрэвы: асіна, альха, бяроза, топаль і іншыя, але не хваёвыя. Пры гэтым яны ніколі ня возьмуць ужо гатовы кій, ці галіну, што валяецца на зямлі, але абавязкова валяць дрэва з пня. Сваімі вострымі зубамі бабёр хутка перапільвае яго, як пілой, адрэжа верхавіну, гальлё, здыме кару. Потым бярэ пярэднімі лапамі і цягне на задніх да ракі, а там ужо сплаўляе ўніз, а калі трэба ўверх, дык у зубах цягне да будынку.

Але здараецца, што патрэбныя дрэвы знаходзяцца досыць далёка ад ракі, тады яны, ня доўга думаючы, будуюць „шасу", убіраюць гальлё, траву, лісьце, выроўніваюць, вытоптываюць. А калі мясцовасьць нізкая, дык яны не задумваюцца нават пракапаць спэцыяльны канал, па якім і сплаўляюць свае бярвеньні.

Калі вада ў рэчцы паніжаецца, тады будуюць грэблю. Заганяюць у зямлю кольлі даўжынёю ў мэтр і таўшчынёю 10—15 сантымэтраў, а зьверху абкладаюць глінай і дзёрнам. Сустракаюцца грэблі даўжынёю ў 150 мэтраў і вышынёю да 3-х, гэта значыць, ня горшыя за тыя, што людзі будуюць дзеля млыноў. І моцнасьць іх ніколькі ня меншая.

Дрэва дастаўляюць, галоўным чынам, самцы, а будуюць самкі.

Працуюць, галоўным чынам, ноччу, а дзень праводзяць у сваім доме, які звычайна складаецца з 2—3 пакояў. У час працы выстаўляюць вартаўнікоў, якія даюць знаць аб небясьпецы тым, што з шумам кідаюцца ў ваду.

Як вядома, бабры цэняцца з-за сваёй каштоўнай скуры, затое-ж і зьнішчаюць іх так, што цяпер іх зусім мала застаецца: у Сібіры, Паўночнай Амэрыцы, на поўначы СССР ды ў нас на Беларусі, дзе нават адна рака (прытока Зах. Буга) завецца Бабёр.

Я. М.



# НАША ЖЫЦЬЦЁ

## Наш атрад да агляду.

*(Менск, атрад пры доме Чырвонай арміі).*

К гэтаму часу ў атрадзе налічваецца 38 піонэраў, якія складаюцца з дзяцей вайсковаслужачых. Атрад разьбіты на чатыры зьвяны. Уся праца атраду грунтуецца навокал дома Чырвонай арміі. Атрад організаваўся яшчэ ў 1925 годзе, але сталая праца атраду разгарнулася толькі летам гэтага году. Атрад расьце ўвесь час, але лік дзяцей у атрадзе не павялічваецца, бо піонэры разам з сваімі бацькамі часта пераяжджаюць з аднаго месца на другое.

Чаго-ж мы дасяглі ў нашай працы?

**Вайсковая праца.**

Гэта праца ўжо даўно вядзецца ў атрадзе сыстэматычна. Усе зьвеньні пры дапамозе чырвонаармейцаў і каманднага складу добра распрацавалі шмат гутарак па гэтым пытаньні. Праца гэта вельмі зацікавіла піонэраў. Была створана папярэдняя праца па вывучэньні вінтоўкі, пасьля чаго ў ціры дому Чырвонай арміі адбыліся стралковыя спаборніцтвы.

Піонэры вельмі старанна рыхтаваліся да гэтых спаборніцтваў, і ў выніку піонэрка С м о к  М а р ы с я заняла першае месца (выбіла каля 70%). Завідна стала астатнім піонэрам...

І пачалі яшчэ больш рыхтавацца і вучыцца вайсковай справе. За свае грошы ходзяць у цір, каб вучыцца страляць. У скорым часе атрад рыхтуе яшчэ адно спаборніцтва на лепшага стралка.

— Пэўна, Марыся ізноў зойме першае месца,—хвалююцца піонэры.

**Шахматны і шашачны конкурс.**

Шмат піонэраў атраду гуляюць у шахматы і шашкі, і самімі піонэрамі была высунута думка аб утварэньні шахматнага і шашачнага турніру. У шахматным турніры ўдзельнічала 9 чалавек. Больш тыдню „рэзаліся“ хлопцы і прышлі да выніку. Гэта пакінула вельмі добрае ўражаньне ў піонэраў. У шашачным турніры ўдзельнічала 17 піонэраў.

Турнір выявіў лепшых шахмацістаў і шашачнікаў. Атрад хутка выдасьць прэміі лепшым ігракам.

**Рыхтуем сабе зьмену.**

Група акцябрат ужо даўно існуе пры атрадзе. Кіраўніком у яе выдзелен вопытны пэдагог-комсамолец, студэнт унівэрсытэту. Дзеці вельмі ахвотна зьяўляюцца на заняткі і зборы групы. Яны малююць, лепяць і працуюць. Бацькі вельмі здаволены працай акцябрат і ахвотна пускаюць дзяцей у групы. Сярод акцябрат маюцца ўжо і піонэры.

**Выяжджаем у вёску.**

Атрад трымае сувязь з атрадам і школай саўгаспадаркі Прылукі. Некалькі раз атрад выяжджаў туды, каб замацаваць сувязь. Нават лягер праводзіў там. І цяпер атрад часта наведвае піонэраў і дзяцей саўхозу Прылукі. Піонэры праводзяць там сходы, вечары і інш. Дзеці саўхозу бываюць вельмі здаволены, калі прыяжджаюць піонэры.

**У нас пераросткаў няма.**

У атрадзе пераросткаў няма. Усе дзеці своячасова перадаюцца ў комсамол. Цяпер утворан палітгурток для падрыхтоўкі старэйшых піонэраў да комсамолу.

**Мы здаволены.**

Атрад наш знаходзіцца пры яч. Б. Д. У. Ячэйка вельмі ўважліва адносіцца да піонэратраду. Ня раз ставілі справаздачы павадыра на бюро і сходзе ячэйкі. Калі патрэбна дапамога з боку яч. ў комсамольцах, каб правесьці якую-небудзь працу, яны сваечасова вылучаюцца. Акрамя гэтага, у атрадзе ёсьць дасягненьні і ў другіх галінах працы. Сувязь з

бацькамі пачынае наладжвацца. Нядаўна адбыўся сход бацькоў, на якім пастаноўлена ўвесьці вучотныя кніжкі.

Нядаўна праз дом Чырвонай арміі атрад наладзіў дармовы кіно-сэанс для дзяцей. Дзеці засталіся здаволеныя. Піонэры здаволены працай атраду.

**А. Кучар.**

---

## Дзе мы ўзялі грошы?

*(М. Любань, 22-гі атр. імя тав. Крупскай).*

У нашым атрадзе ня было сродкаў дзеля розных атрадных выдаткаў. Шэфа ў нас няма.

Парашылі наладзіць платны спэктакль, які нам даў 25 руб. За гэтыя грошы купілі кніжак у сваю бібліотэку. Зараз кніжкі шмат чытаюцца неорганізаванымі дзецьмі. Таксама за гэтыя грошы купілі малюнкі-плякаты ў піонэрскі клюб, паперы сакратару атрада дзеля запісваньня дзеньніка. Вось як сваімі сіламі мы набылі сродкі на патрэбы атраду.

**Фрыдман Мота.**

## Падпісаліся на заём.

Нашым атрадам была праведзена кампанія ў II чыгуначнай школе аб падпісцы на заём індустрыялізацыі. У выніку гэтай кампаніі піонэры колектыўна ўнесьлі па 10 к. і падпісаліся на 10-рублёвую аблігацыю.

Магілёўскі 85 чыгуначны атрад імя Фрунзэ.

**А. Лысенка.**

## Не далі развалiцца атраду.

*(м. Койданава, Менскай акругі)*

Нядаўна наш атрад завязаў сувязь з вясковым атрадам в. *Навасёлкі.* Пад уплывам розных чутак аб вайне піонэры пачалі выходзіць з гэтага атраду.

Наш атрад пайшоў у в. Навасёлкі, і сумесна з вясковым атрадам быў праведзены вечар для бацькоў, на якім была пастаўлена гутарка *аб рабоце піонэратраду.* Пасьля гутаркі была пастаўлена п'еска.

Пасьля гэтага бацькі пачалі ахвотна пускаць сваіх дзяцей у атрад, нават новых запісалася 10 чал.

Цяпер атрад досыць добра працуе і мы ім дапамагаем. Нядаўна наш атрад паслаў ім шмат піонэрскіх кніг, а таксама і піонэрскія гульні.

Піонэр **Н. Аёла.**



Лінотыпная наборная машына 1-ай друкарні. Набор на гэтай машыне робіцца вельмі хутка: рабочы выстуквае пальцамі па альфабэту патрэбныя словы і яны ў сваю чаргу адліваюцца ў поўныя радкі з цынку ў машыне.

## Дзяткоргурток зацікавіў.

*(Ляды, Аршанскае акр.).*

Спачатку ў нашым дзяткоргуртку праца была пастаўлена кепска: ня было нават пляну працы гуртка. Пасьля піонэрскім атрадам быў выпрацаваны плян, у якім было вызначана правесьці наступнае:

1) Як пісаць артыкулы ў насьценгазэту?

2) Ці патрэбна чытаць друкаваныя газэты?

Калі гэтыя пытаньні былі распрацаваны, была намечана новая работа, гэта— *як навучыцца складаць рэбусы і шарады.* Заняткі гуртка праводзяцца адзін раз у тыдзень. Піонэры прымаюць актыўны ўдзел у працы нашага дзяткоргуртка.

**Ад рэдакцыі: Просьба да ўсіх дзяткоргурткоў прыслаць у нашу рэдакцыю весткі аб рабоце гурткоў. Рэдакцыя „Б. П.“ зараз праводзіць сталы падлік дзяткоргурткоў на Беларусі, пасьля чаго будуць пасылацца апошнім розныя ўказаньні (лісты) аб іх рабоце.**

## Хутка скончым заданьне.

Пачалі распрацоўваць заданьне аб МОП‘ры і нашай дапамозе гэтай арганізацыі 2 месяцы таму назад.

Піонэры ўзяліся за працу ахвотна.

Гэта была навіна.

Перад тым, як распрацаваць гэтае заданьне, павадыр нам сказаў: „Цікавасьці і карысьці будзе больш тады, калі па гэтым заданьні піонэры самі намецяць конкрэтныя прапановы, якія яны змогуць выканаць“.

Сход піонэраў, на якім абмяркоўваліся гэтыя прапановы, прайшоў вельмі актыўна.

Піонэры парашылі распаўсюджваць мопраўскую літаратуру. Піонэрам аднаго зьвяна было даручана пайсьці на рынак і прадаваць розную літаратуру сярод сялян. У гэты-ж самы час піонэры тлумачылі сялянам, куды пойдуць гэтыя грошы, паказвалі ім асобныя малюнкі з гэтых кніжак, дзе відаць было, як зьдзекуюцца буржуі над рабочымі, за што садзяць іх у турмы.

Усяго было прадана 50 часопісяй і сабрана 5 рублёў.

Другое зьвяно распаўсюджвала літаратуру ў сямігодцы. Там было распаўсюджана літаратуры на 4 руб.

Акрамя ўсяго гэтага, нацı атрад наладзіў платны спэктакль-вечар, ад якога мелі 5 руб.

На зборы атраду, на зьвёнах праводзіліся гутаркі, што такое МОПР, якім парадкам уступіць у гэту організацыю і інш.

Заданьне гэта хутка скончым і прыступім да новага.

**Файтлін Файва.**

(4-ты атр. імя Чырв. арміі, м. Ляды, Аршаншчына).



*Дзеці дзіцячага сада за гульнёй.*

# ЯК МЫ СЬВЯТКАВАЛІ.

## Піонэрам Захаду.

Мы, піонэры 24 атраду пры конвэртнай ф-цы (г. Менск), у дзень сьвяткаваньня 10-годзьдзя Кастрычнікавай рэволюцыі шлем гарачае прывітаньне нашым братом, якія жывуць пад уціскам капіталу, і якія ня могуць сьвяткаваць так, як мы. Мы жадаем, каб 11-ую гадавіну сьвята працоўных усяго сьвету мы сьвяткавалі разам вольна ва ўсім сьвеце.

Піонэры Захаду, да змаганьня за справу працоўных і за сусьветны Кастрычнік будзьце гатовы!

г. Менск. Піонэры 24-га атраду.

## Мы прынялі ўдзел у сьвяткаваньні.

*(м. Баява).*

Раніцой 7-га лістапада піонэры ўсяго атраду сабраліся ў хату-чытальню, зрабілі ўрачыстае пасядженьне, на якім былі прадстаўнікі ад КСМ і ад партыі.

Была праведзена гутарка аб 10-годзьдзі Кастрычніка. Пасьля комсамольская ячэйка, піонэры і сялянства вышлі на вуліцу з чырвонымі сьцягамі.

Увечары быў спэктакль, на гэтым вечары былі комсамольцы і піонэры.

**Кручкоў Я.**

## Сьвята праведзена добра

*(гор. Ворша).*

Яшчэ за месяц да дню 10-годзьдзя Кастрычнікавай рэволюцыі ў атрадзе распачалася падрыхтоўка да сьвята.

Рыхтаваўся вечар піонэраў сумесна з групай акцябрат.

Да сьвята піонэры рыхтавалі п'есу, акцябраты таксама.

Піонэрамі да сьвята быў упрыгожаны клюб комунальнікаў, бо атрад знаходзіцца пры гэтым саюзе. Атрад піонэраў атрымаў ад саюзу 10 руб. на организацыю вечара, і акцябраты ад свайго саюзу атрымалі 5 руб.

Далей быў праведзены збор грошай сярод саміх піонэраў.

Усяго сабралася 20 руб.

З нецярплівасьцю чакалі адчыненьня вечара. Дзеля піонэраў і акцябрат было падрыхтавана ўгашчэньне. На вечар былі запрошаны прадстаўнікі комсамольскай ячэйкі, ад вайсковых частак, ад саюзу друкароў і комунальнікаў.

Добра, вясёла адчувалі сябе піонэры на гэтым вечары.

У панядзелак усе піонэры ўдзельнічалі ў дэмонстрацыі.

Сьвята праведзена добра.

**С. Законьнікаў.**



*Хто чым цікавіцца: малышы выбіраюць для сябе добрыя цацкі.*

# Будаўнікі новай школы.



## Самі вырашылі.

*(Уражаньні ўдзельніка конфэрэнцыі).*

Праз 2 дні (3 і 4 лістапада) барысаўскія вучні *самі* вырашалі сваё важнае і хвалюючае пытаньне: як наладзіць лепш школьнае жыцьцё?

Адзін за другім малышы з 2-ой і 3-яй групы і сталыя ўжо „навабранцы“ з апошніх, устаюць па чарзе і выносяць на суд конфэрэнцыі кожны сваё,—тое, што цікавіць і яго, і паслаўшых яго таварышоў.

Ня гледзячы на дождж, макрату, клюб „ЛЮКС“, які знаходзіцца поруч са станцыяй, быў повен ад дэлегатаў.

Вясёлы сьмех, жывыя спрэчкі, гутаркі аб надыходзячых сьвяткаваньнях...

Гэта ў часе перапменак.

Інспэктар аддзелу Н. А. гарсавету т.Раманоўскі скорагаворкай робіць даклад „Школьнае будаўніцтва ў гор. Барысаве“. Ён забываецца іншы раз аб тым, хто слухае яго даклад і ўдаецца ў такія складаныя пытаньні, якія варты разгляду дзе-небудзь на настаўніцкай конфэрэнцыі. Але ўсё гэта робіцца са шчырасьцю, з поўнай верай, што слухачы яго добра разумеюць.

Пасьля сотні запытаньняў. Маленькі шустры старшыня, піонэр Бандэс з 52 атраду, талкова і дзелавіта вядзе парадак. Нідзе ні шуму, ні жартаў. Увага ўсіх зьвернута ў бок прэзыдыуму і ў бок гаворачых.

Пытаньні самыя разнастайныя:

— Хто мае больш правоў у школе: форпост, вучком, ці школьны савет?

— Чаму ў горадзе для ўсіх школ маецца толькі адзін доктар?

— Чаму ў нашай школе няма кіраўніка фізвыху і г. д. і г. д.

Доўга і больш павольна ўжо адказвае інспэктар на ўсе запытаньні.

А ў спрэчках выяўляецца і яшчэ больш.

Вось устае з гурту дэлегатаў шчуплы, маленькі школьнік. Усе на момант зьвярнуліся да яго.

Проста, ясна і талкова расказвае ён наступнае:

— Настаўнік беларускай мовы ў нашай школе займаецца „чарадзействам“. Ён, калі „ня мае вока“ на вучня, дык заўсёды заяўляе яму: „Ты сёньня нават і ня ідзі здаваць залік—усё роўна не здасі“. І пасьля гэтых слоў сапраўды рэдка хто здае... Але гэта, бязумоўна, толькі выпадак. Настойлівае выклікаьне ў прэзыдыум усіх настаўнікаў, якія прышлі на конфэрэнцыю, сьведчыць аб

добрых адносінах між вучнямі і настаўнікамі.

Тут-жа другі вучань расказвае аб тым, як яны сабралі па 3 кап. і закупілі падарункі для падшэфнай вясковай школы.

Вучаніца з яўрэйскай школы Ароніна ціхім шопатам, трошку сарамяжліва, але шчыра перадае конфэрэнцыі аб тым, што ў іх у школе рыхтуецца ранішнік, прысьвечаны Кастрычніку, і што на гэтым ранішніку ў іх будуць усе бацькі.

Яе заманчывая і мілая дзіцячая ўсьмешка пакідае досыць прыемнае ўражаньне на ўсіх прысутных.

Дружныя воплескі вітаюць яе выступленьне.

З 200 вучняў-дэлегатаў у спрэчках прымаюць удзел ня менш паловы, а калі да гэтага дадаць выступаючых з запытаньнямі, тады атрымаем даволі прыемны малюнак.

Старэйшыя вучні (Мазо, Бэрнштэйн і інш.) выступаюць у спрэчках па некалькі разоў.

Характэрная асаблівасьць: усе выступаючыя закранаюць больш блізкія ім, больш балючыя для іх пытаньні—гэта аб жыцьці і працы сваёй школы. І толькі тады, калі хто-небудзь пачынае хваліць сваю школу, бура водгукаў сыплецца па яго адрасу... Ніхто ня згодзен прызнаць лепшай па працы дасьледчую школу (№ 3).

У заключным слове дакладчык больш усяго адказвае—усё будзе, усё, вось толькі няхай зацьвердзяць каштарыс!..

— Праклляты гэты каштарыс,—думаюць вучні, якія яго нават не разумеюць. Але яны-б з ахвотай яго зацьвердзілі тут-жа аднагалосна, калі-б такое пытаньне на конфэрэнцыі паставілі.

Жыва і спачуваюча адгукнулася конфэрэнцыя на даклад рэдакцыі час. „Беларускі Піонэр“ аб пашырэньні гэтае часопісі сярод барысаўскіх вучняў і піонэраў.

У рэзолюцыі, якую высунуў па гэтым пытаньню вядомы ўжо нам старшыня конфэрэнцыі, значылася: „У бліжэйшыя месяцы дабіцца таго, каб барысаўскія школы выпісвалі ня менш 100 экз. (цяпер выпісваецца 40).

Зусім няпрыветна спаткала конфэрэнцыя гэту прапанову.

— *Даёш 500 экз. на Барысаў!*

Толькі, калі прэзыдыум згадзіўся аднагалосна з прапановай конфэрэнцыі, шум і выкрыкі былі спынены.

Будзем спадзявацца, што барысаўскія школьнікі не заставяць толькі на паперы свае пастановы, а выканаюць яе ў самы бліжэйшы час.

Так, колектыўна, талкова і дзелавіта вырашала конфэрэнцыя свае галоўныя пытаньні школьнага жыцьця.

# Цэнтральная Дасьледчая...

*(г. Менск).*

Вялікі будынак, які раскінуўся ў канцы Савецкай, здаецца амаль няпрыкметным, толькі высока ў гары красуецца старая выцьвіўшая шыльда. Раніцай туды зьбягаюцца з усіх канцоў дзеці большага і меншага ўзросту. Паглядзім, як жыве гэта школа, як працуе там школьнае самакіраваньня, як наладжана організацыя дзяцей.

### Як наладзілі гарачыя сьнеданьні.

Кожны дзень, зайшоўшы ў школу каля 12 гадзін, можна заўважыць, што клясы ператвараюцца ў сталовыя. Замест ранейшых кніжак і настаўнікаў у школе зьяўляюцца кубкі з чаем і абаранкамі. Ды і стараюцца хлопцы „аж пот лье градам“. Наядуцца сабе вучні, і вучыцца ахватней, і адчуваеш сябе крапчэйшым. Як удалося ўсё гэта зрабіць?

Мусіць усе вучні добра ведаюць, што ня так лёгка шэсьць лекцый прасядзець нічога ня еўшы, ды і мазгі адмаўляюцца добра працаваць, вось для гэтага і існуюць вялікія перапынкі. Такія перапынкі цягнуцца ня больш 30 хвілін. Праўда, тым, якія жывуць блізка ад школы, можна зьбегаць дамоў пад'есьці, але як тым, якія жывуць далёка? Ды ў школе яшчэ вучацца дзеці з дзіцячых дамоў, а ў іх абед толькі ў пэўны час. Куды-ж ісьці? Усё гэтае прымусіла пэдсавет яшчэ ў мінулым годзе згадзіцца з тым, што трэба організаваць гарачыя сьнеданьні.

Вучком узяўся за гэту справу. Быў скліканы бацькоўскі сход, на якім усе бацькі згадзіліся даць грошы, каб організаваць сьнеданьні. Вучком пачаў наладжваць самыя сьнеданьні.

Кожны вучань унёс 1 руб. грошай і прынёс кубак. Горш стаяла справа з выхаванцамі дзіцячых дамоў. Дзіцячы дом за іх плаціць ня меў магчымасьці, але школа пачала хадайнічаць перад Наркамасьветы, і яны сьнедаюць за дзяржаўны кошт. За ўсю справу па закупцы харчоў і інш. узялася гаспадарчая камісія. Вучні і бацькі вельмі здаволены організацыяй сьнеданьняў. Цяпер сьнедаюць усе вучні, нават тыя, якія ня плацяць за сьнеданьне (бедныя).

### Культпраца цікавіць вучняў.

Яшчэ ў мінулым годзе пры школе існавалі розныя гурткі, але яны былі непрацаздольныя. Цяпер замест гурткоў пры кожным патрэбным моманце ўтвараюцца асобныя камісіі. Напрыклад: надыходзіць сьвята Кастрычніка, патрэбны плякаты, сабіраюцца ўсе вучні, жадаючыя маляваць, і малююць плякаты. Аказваецца, што вучні вельмі цікавяцца такімі гурткамі і ахвотна ідуць у іх.

Усёй культпрацай школы кіруе культкамісія. Самае галоўнае ў культпрацы школы—гэта вучнёўскія вечары. Хаця такіх вечароў праводзіцца малавата, але затое іх зьмест вельмі цікавіць школьнікаў. Тым больш, што ўсе вечары пабудованы на самадзейнасьці вучняў. Звычайна такі вечар складецца з урачыстай часткі, пастаноўкі п‘есы вучнямі, хору, дэклямацый і гульняў. У правядзеньні вечароў актыўны ўдзел прымаюць настаўнікі, якія кіруюць пастаноўкай і хорам. Акрамя гэтага, на гэткіх вечарох чытаецца спэцыяльна выпушчаная вусная газэта, у якой высьвятляюцца пытаньні жыцьця і быту школы. Часамі вусная газэта замяняецца сьветавой.

Кожны месяц школа выпускае часопісь „Чырвоныя Ўсходы“. У ёй супрацоўнічае большая частка вучняў. Вялікую частку ў гэтай часопісі займае літаратурная праца вучняў. Амаль палова часопісі занята вершамі. Характэрны вершы з быту і жыцьця школы, якія яскрава абмалёўваюць „за сьнеданьнем“ і інш.

### Як разьмяркоўваюцца падручнікі.

Пры кожнай лябораторыі маецца бібліотэка падручнікаў па даным прадмеце. Да разьмеркаваньня гэтых кніжак настаўнік ніякага дачыненьня ня мае, а гэтай справай ведае спэцыяльны сакратарыят, які складаецца з вучняў. Так як кніжак ня вельмі багата, то патрэбна правільнае разьмеркаваньне іх. Сакратарыят гэта і робіць; апроч таго, ён стараецца забясьпечыць хворых вучняў кніжкамі, перасылаючы ім іх на дом.

### Школа і бацькі.

Назіраецца вельмі вялікая зацікаўленасьць бацькоў школаю. Амаль ва ўсіх камісіях школы прымаюць удзел бацькі. Сходы бацькоў наладжваюцца часта. На іх прысутнічаюць амаль усе бацькі. За гэты час было наладжана некалькі вечароў сумесна з бацькамі. З вялікай ахвотай яны сустрэлі гэтыя вечары. Такі-ж вечар будзе скора праведзен. Бацькі надзвычайна цікавяцца пытаньнем пасьпяховасьці іх дзяцей.

### Вучні з рушнікамі, мылам...

Значная праца праведзена ў адносінах прывіцьця гігіенічных навыкаў малодшым школьнікам. Кожны з іх мае свой рушнік, мыла, зубны парашок. Вялікая доля гэтай працы належыць вучкому. Сан-працаўнікі глядзяць за тым, каб усе мылі рукі і падтрымвалі чыстату. У другім концэнтры кожны вучань мае рушнік.

### Аб піонэрах.

Да гэтага году пры школе існаваў форпост, які працаваў вельмі дрэнна. У гэтым годзе ў кастрычніку м-цы організаваўся дзеля вывучэньня працы піонэратрад, як асобны выпадак. Атрад з агульнага ліку 227 вучняў налічвае 65 піонэраў, якія былі раней у 13 атрадах гораду. Уплыў піонэраў на вучняў вялікі, асабліва ў малодшых клясах. У вучкоме знаходзіцца больш паловы піонэраў. Пасьпяховасьць піонэраў у большасьці добрая.

**А. Кучар.**

г. Менск.






# Буржуазія пачала сваю помсту.

*(Ліст, атрыманы на мове эспэранто).*

30-га верасьня — першы дзень суда над бунтарамі ліпеньскіх дзён у Вене. Штодзенна заля бывае поўна народу, які сюды прыходзіць, каб паглядзець і паслухаць. Гэта *толькі пачатак судовай справы, якая будзе слухацца ў працягу кастрычніка, лістапада і сьнежня* г. г.

Сваю расправу венская юстыцыя пачала судом над „дробнымі бунтарамі“, якія прысуджаюцца самае меншае да 3-х месяцаў зьняволеньня.

Хто-ж яны, гэтыя дробныя бунтары?

Чакаючы ўбачыць абвінавачанага комуністага, я нечакана ўбачыў уведзенага юнака гадоў 15. І гэтаму юнаку было пададзена абвінавачаньне ў тым, што 15-га ліпеня ён разам з другімі дэмонстрантамі спыніў аўтомобіль.

Уся ўвага судзьдзяў, якія сядзяць за сталом, пакрытым зялёным сукном, а таксама журналістых, чужаземцаў і вышуканцаў, абарачваецца на гэтага юнака, горда адказваючага на запытаньні судзьдзі.

— Колькі вам гадоў?

— *Пятнаццаць.*

— Чым вы займаецеся?

— *Працую на фабрыцы.*

— Ці прызнаеце сябе вінаватым у прад'яўленым абвінавачваньні?

— *Не*!

Хлопец сьмела пачаў расказваць, якім чынам ён папаў на лаўку абвінавачаных.

— Мы йшлі цэлай кампаніяй. Раптам поліцэйскі выстраліў у аднаго з нашых рабочых, які зараз-жа і ўпаў: яго неабходна было адвесьці ў госьпіталь і зрабіць належную дапамогу, але ня было на чым. Мы ўбачылі аўтомобіль і яго спынілі. Сам я нічога не рабіў, але толькі прысутнічаў.

„*Тры месяцы турмы*“—такі быў прыгавар суда.

У залю ўвялі другога, трэцяга, і *ўсім далі па 3—5 месяцаў. Так бязьлітасна венская юстыцыя саджае ў турмы бязьвінных юнакоў*, „дробных бунтароў“. Што-ж будзе, калі пачнуць судзіць бунтароў буйных? Што можна чакаць для іх?

Тры наступныя месяцы — кастрычнік, лістапад і сьнежань вырвуць шмат лепшых сіл з шэрагаў венскага пролетарыяту.

**Пультэн.**

*Вена, Аўстрыя.*

# Ліст з Польшчы да менскіх піонэраў.

**Дарагія таварышы!**

Ваш ліст я атрымаў, за які Вам вельмі дзякую.

Сам я працую ў капальні, мы працуем у вельмі дрэнных умовах, церпім кпіны і зьдзекі наглядчыкаў. Мне 16 год. Ужо 6 год, як я працую. Я Вам буду прысылаць лісты аб жыцьці дзяцей на капальнях.

Польская цэнзура савецкіх лістоў не прапускае да нас, і ўсе лісты з СССР кідаюць у печ.

Прозьвішча баюся падпісаць, бо паліцыя можа мяне за гэта арыштаваць і пасадзіць у турму.

Прашу прысылаць лісты праз Нямеччыну.

# Гутаркі чырвонага камандзіра.

### Хэмія ў вайне.

Піонэрам шмат разоў даводзілася чуць аб ядавітых газах, якія маюць месца ў якасьці зброі ў сучаснай вайне. Што-ж гэта за зброя?

Розных ядаў у прыродзе шмат. Яд знаходзіцца і ў расьлінах, і ў мінэралях, і ў некаторых жывёл (вужакі, кузуркі і чляністаногія, рыбы). Некаторыя ядавітыя рэчы толькі шкодны, а некаторыя нават карысны, калі іх ужываюць у малой колькасьці або ў злучэньні з іншымі рэчамі. Шмат якімі ядамі карыстаюцца ў мэдыцыне, у тэхніцы, у сельскай гаспадарцы.

Атрутныя рэчы бываюць у цьвёрдым выглядзе, у вадкім і ў выглядзе газаў. Напрыклад, мышак—ёсьць цьвёрдае цела, зьмяіны яд—вадкасьць, а чад—газ.

Бяз ядаў не абышлося і ў вайсковай справе. Некаторыя дзікія пляменьні і цяпер яшчэ мажуць атрутамі свае стрэлы. Захавалася паданьне, што дзікія індыйцы Паўднёвай Амэрыкі ў бойках з эўропэйцамі, некалькі сот гадоў таму назад, калі знашлі Амэрыку, ужывалі „атрутныя газы“. Для гэтага яны палілі на гаручых вугольях перац і пускалі па ветру у бок ворага атрутную пару ад перца.

У эўропэйскай вайне 1914-18 г.г. атрутныя рэчы выступілі ў больш грозным і сьмяртэльным выглядзе і ў больш ым ліку.

Газы падзяляюцца на удушлівыя, якія выклікаюць кашаль, запаленьне дыхальных органаў і лёгкіх, ацёк лёгкіх і сьмерць.



Самым лепшым сродкам супроць газа зьяўляецца працівагаз.

Ядавітыя, якія атручваюць кроў (напрыклад, чадны газ).

Сьлёзатачывыя, інакш званыя „лякрыматары“, ад лацінскага слова „лякрыма“—сьляза. Гэтыя атруты выклікаюць моцнае сьлёзацячэньне, учыняюць вялікую боль для вачэй і даводзяць нават да часовай страты зроку.

Нарыўныя, якія выклікаюць моцныя апёкі скуры.

Чхальныя, якія выклікаюць моцнае чханьне, да крывацячэньня з носу і ванітаваньня. Гэтыя рэчы складаюцца з мешаніны мышака і хлёру.

Атрутныя рэчы бываюць *стойкія*, гэта ёсьць такія, якія мала паддаюцца выпарэньню, або распускаюцца ў вільгаці паветра. Стойкія рэчы доўгі час (да 2-х тыдняў) могуць трымацца на месцы. Маластойкія, наадварот, у, паветры трацяць сваю моц. Да стойкіх газаў належаць: тыя, якія выклікаюць сьлёзацячэньне і ванітаваньне; да маластойкіх—рэшта.

У сувязі з гэтым і прызначэньне атрутаў у бойцы бывае рознае. Для зьнішчэньня жывой сілы ворага ўжываюцца ўдушлівыя, атрутныя і нарыўныя газы. Для часовага вывядзеньня байца са строю ўжываецца газ сьлёзатачывы. Для таго, каб прымусіць байца зьняць з твару працівагаз, і пасьля атруціць яго ўдушлівымі альбо ядавітымі рэчамі, ужываюцца газы чхальныя.

Атрутнымі рэчамі заражаюцца артылерыйскія снарады, самалётныя бомбы, ручныя гранаты. Ядавітыя газы пры заражаньні маюць моцна згушчаны выгляд. Іншы раз яды выпускаюцца ў выглядзе атрутнага дыму.

Самым пашыраным ядам зьяўляецца *хлёр*, жоўтавата-зялёнага колеру, з удушлівым пахам, у $2^1/_2$ разы цяжэйшы за паветра. У злучэньні з іншымі рэчамі хлёр



складае амаль што 90% усіх атрутных рэчаў.

Як абараняцца ад ядаў? Няма такое зброі, супроць якое-б ня было-б абароны, і няма такога яду, супроць якога ня было-б супроцьядзьдзя.

Пры масавай абароне робяцца асобныя газапрыстасаваньні, якія маюць асаблівыя фільтры, якія прапускаюць сюды чыстае паветра і затрымліваюць яды. Такія газавыя пакоі можна рабіць і ў заселеных мясцовасьцях.

Для абароны людзей у асобку маецца прылада—процівагазавая маска, альбо процівагаз, які надзяваецца на твар. Супроць нарыўных рэчаў на цела надзяваецца цэлы касьцюм, пашыты з матэрыі. Процівагаз пры дыханьні прапускае ў лёгкія паветра, але затрымлівае яды. Матар'ялам, які затрымлівае ядавітыя газы, зьяўляецца *вугаль.* Вугаль маеназдраватую пабудову. Ноздры гэтыя вельмі дробныя і простым вокам іх ня ўбачыш. Гэтыя дробныя дзірачкі і затрымліваюць ядавітыя рэчы. І чым гэтых дзірачак у вугалі больш, тым ён лепшы, бо болей убірае ў сябе ядаў. Лепшым лічыцца касьцяны вугаль, пасьля за ім ідзе вугаль ад пладовых костачак, горшым будзе вугаль ад дрэва розных пародаў.

Вугаль затрымлівае яды, і дзеля гэтага процівагаз зьяўляецца найбольш прыемлемай і вернай абаронай ад ядаў.

К.



# ПІОНЭРСКІЯ ГУЛЬНІ.

## Лябірынт.

*Лік удзельнікаў.* Атрад, а то і болей.

*Апісаньне зьместу гульні.* Удзельнікі выстрайваюцца ў некалькі радоў на адлегласьці выпрастаных рук адзін ад другога і трымаюцца за рукі ўдаўжкі шэрагу. Двое гульцоў знаходзяцца з боку шэрагаў. Па сыгналу адзін з іх пачынае лавіць другога. Бегаць можна наўкола і паміж радоў. Усе ўдзельнікі трымаюць рукі выпрастанымі ў бакі і бягунцы павінны бегаць толькі ў „завулках“, паміж радоў, а не пралазіць пад рукі. Калі набліжаецца да ўцекача той, хто яго ловіць, важак часамі падае каманду „ўправа“ або „ўлева“, па якой удзельнікі паварочваюцца, пусьціўшы рукі суседзяў, але трымаючы іх простымі, і павярнуўшыся, барджэй хапаюцца за рукі з новымі суседзямі. Такім чынам, утвараюцца новыя завулкі.

*Значэньне гульні.* Гульня разьвівае ўважлівасьць, орыентаваньне, мускулы рук і ног.

*Мэтодычныя ўвагі.* Патрэбна хутка і часта чаргаваць бегаючыя пары, каб не стаміць тых, што стаяць, з паднятымі рукамі. Каманду трэба падаваць хутка, непадзельна, але ясна. Можна ў пачатку гульні ўмовіцца рабіць паварот толькі ў адзін бок.

## Вон з кола.

*Лік удзельнікаў.* 16—40 чалавек.

*Прылады для гульні.* Адзін ці два футбольныя мячы. Сэкундамер ці гадзіньнік.

*Разьмяшчэньне ўдзельнікаў і пляцоўкі.* Удзельнікі падзяляюцца на дзьве роўныя партыі. Па сярэдзіне пакою праводзіцца крэйдай кола памерам у залежнасьці ад ліку ўдзельнікаў. Адна партыя становіцца ўнутры кола і разьмяшчаецца там, як ёй больш зручней (раскіданым на адлегласьці парадкам), а другая за колам.

*Апісаньне гульні.* Кіраўнік заўважвае па гадзіньніку, колькі часу і дае сыгнал. Па сыгналу ўдзельнік каманды, якая знаходзіцца па за колам, кідае мячом у кола, стараючыся папасьці там у каго-небудзь. Тыя, якія знаходзяцца ў коле, стаюрацца ўхіліцца ад удару мяча, бо калі толькі мяч у каго-небудзь пападзе, той лічыцца выбітым, ён пакідае сваю партыю і выходзіць з кола. І гэтак цягнецца гульня аж да таго часу, пакуль ня будзе выбіты астатні ўдзельнік. Кіраўнік пасьля гэтага глядзіць на гадзіньнік і вылічвае, за які тэрмін партыя прайграла. Пасьля першай гульні партыі мяняюцца месцамі. Гульня адбываецца тымжа парадкам, як і раней. Калі астатні выбіваецца, тады кіраўнік параўноўвае час, які патраціла адна і другая партыя для выбіваньня з кола. Тая партыя, якая выбіла за больш кароткі час, лічыцца камандай пераможнай.

*Правілы гульні:*

1. Партыя, якая знаходзіцца паза колам, мае права біць мячом толькі з-за кола.
2. Калі мяч астаўся ў коле, удзельнік партыі, якая выбівае, можа ўвайсьці ў кола, узяць мяч, але ён ня можа біць ім з гэтага-ж месца, мяч перадаецца таварышам за кола.
3. Партыя выбіваючых можа разьмяшчацца за колам, як ёй больш зручней, і мае права перакідваць мяч паміж сваімі ўдзельнікамі для сваёй выгады.
4. Калі ад аднаго кіданьня мяч пападае ў двох ці больш удзельнікаў, усе яны лічацца выбітымі.
5. Удзельнікі партыі, што знаходзяцца ў коле, маюць права ўхіляцца ад udараў, як яны хочуць.

*Парады ўдзельнікам гульні.* У некаторых выпадках можна заместа кола маляваць квадрат і выбіваць мячом толькі з 2-х бакоў.

Кіраўнік можа ўвесьці ў гульню другі мяч, калі гульня зацягваецца; пры гэтым рабіць гэта трэба, зразумела, не даючы перавагі той ці іншай партыі. Напрыклад: можна ўвесьці другі мяч, калі ў коле застаюцца тры асобы. Тое самае трэба зрабіць і ў другой партыі. Гэта для паскарэньня гульні.

# ЦІКАВЫЯ ФОКУСЫ І ВОПЫТЫ.

## I. Капейка, якая ў вадзе не тане

існуе ня толькі ў казцы, але і ў сапраўднасьці. Вы можаце даведацца аб гэтым, калі праробіце некалькі лёгкіх вопытаў. Пачатак з больш лёгкіх рэчаў—з іголак. Здаецца зусім немагчымым прымусіць сталёвую іголку плаваць на паверхні вады, а між іншым гэта ня так цяжка зрабіць. Палажэце на паверхню вады кавалачак папяроснай тонкай паперы, а на яе—зусім сухую іголку. Цяпер застаецца толькі спакойна выняць папяросную паперу з-пад іголкі. Робіцца гэта так: бярэцца другая іголка, якой зьлёгку затапляецца край паперы ў ваду, паступова так даходзячы да сярэдзіны; калі кавалак паперы ўвесь прамокне, ён упадзе на дно, іголка-ж будзе плаваць на паверхні вады. Пры дапамозе магнэсавага ножыка ці яшчэ якой-небудзь рэчы вы можаце нават кіраваць плаваньнем іголкі.



Заместа іголкі можна прымусіць плаваць жалезны гузік і іншыя дробныя рэчы з мэталю. Напрактыкаваўшыся ў гэтым, паспрабуйце прымусіць плаваць і медную капейку.

Пры набыцьці пэўнага спрыту можна абыйсьціся і без папяроснай паперы, кладучы іголку проста на ваду пальцамі.

„Прычына плаваньня ўсіх гэтых мэталёвых рэчаў тая, што вада дрэнна мочыць мэталь, які пабудзе ў нашых руках, і, значыцца, пакрыецца танюсенькім пластам тлустасьці. Дзеля гэтага навакол плаваючай іголкі на паверхні вады робіцца ўпадзіна; яе можна нават бачыць. Вага іголкі, або іншага дробнага прадмета, які ляжыць на вадзе ў такой упадзіне, меншая за вагу тае вады, якую выціскае сабою прадмет—значыцца, па закону Архімэда, такія прадметы павінны плаваць. Яны ня топяцца, па сутнасьці, з тае-ж самае прычыны, з якой ня топіцца на вадзе і сталёвы браняносец.

Прасьцей за ўсё можна дабіцца хуткага і вернага выніку, калі змазаць іголку маслам: яе тады сьмела можна класьці на паверхню вады, не баючыся, што яна ўтане...

## Якую карысьць можна атрымаць ад свае цені?

Продкі нашы ўмелі калі не лавіць свае цені, дык атрымліваць з яе карысьць: з дапамогай ценяў яны малявалі „сілуэты“—ценявыя зарысоўкі людзкіх фігур.

У нашы дні, дзякуючы фотографіі, кожны мае магчымасьць набыць свой портрэт без усялякай на гэта труднасьці. Але продкі нашы ў XVIII веку ня былі так шчасьлівы: портрэты, якія заказваліся ў мастакоў, каштавалі шмат грошай і былі даступнымі толькі для багатых людзей.

Вось чаму гэтак пашыраны былі ў той час сілуэты; да вядомай ступені яны замянялі сабою нашую сучасную фотографію. Сілуэты—гэта злоўленыя і зарысаваныя цені.

Як адбывалася зарысоўка сілуэтаў, паказаны на малюнку. Той, з каго зьнімаўся сілуэт, садзіўся між сьвечкаю (пастаўленай дзеля ўзмацненьня яскравасьці сьвету перад люстрам) і празрыстай паперай, нацягнутай на раму. Галаву паварачвалі так, каб цень давала досыць выразны профіль, і абводзілі карандашом яго. Пасьля гэтага контур залівалі

тушшу, выразалі і наклейвалі на белую паперу: сілуэт гатоў.

Вы і самі можаце зрабіць сабе сілуэты вашых знаёмых, ня будучы добрым рысавальшчыкам. Удачны сілуэт іншы раз перадае вельмі дакладна характэрныя абрысы орыгіналу.

Гэта асаблівасьць ценявых малюнкаў зацікавіла некаторых мастакоў, якія пачалі маляваць у такім напрамку цэлыя складаныя па характару малюнкі, кругавіды і інш. Паступова маляваньне сілуэтаў перайшло ў асаблівае штукарства і ўтварыла нават цэлую школу мастакоў.

Цікава ведаць пахаджэньне самога слова „сілуэт“: яно перанята ад прозьвішча францускага міністра грашовых спраў сярэдзіны XVIII в., Эцьена дэ-Сілуэт, які заклікаў сваіх сучасьнікаў да разумнай ашчаднасьці грошай, асабліва ганіў ён багатых за вялікія выдаткі грошай на малюнкі і портрэты. Жартаўнікі пры ўпамінаньні аб дзяшовых портрэтах называлі іх портрэтамі „à la Silhouette“ (а ля Сілуэтэ). Адсюль і пайшла назва для такога роду малюнкаў „сілуэт“.

**Як атрымаць агонь пры дапамозе лёду?**

Матар'ялам для дваякавыпуклага празрыстага цела, пры дапамозе якога можна атрымаць агонь, можа служыць таксама і лёд, калі ён даволі празрысты. Пры гэтым лёд, пераламляючы ў сабе праменьні, сам не награецца і не распускаецца.

Вядомы фантазёр Жуль-Вэрн у сваім творы „Падарожжа капітана Гаттэраса“ апісвае, як гэта яго гэроі здабылі агонь пры дапамозе лёду. Падарожнікі засталіся без агню пры страшным марозе ў 48 градусаў.

— Гэта няшчасьце,—сказаў Гаттэрас доктару Клаубоні.

— Так,—адказаў доктар.

— У нас няма нават падзорнай трубы, з якой мы маглі-б выняць чачавіцу (дваякавыпуклае шкло) і здабыць агонь.

— Ведаю,—адказаў доктар:—і вельмі шкада, што няма; сонечныя праменьні даволі пякучыя і лёгка можна было-б запаліць цэру.

— Што рабіць, прыдзецца есьці сырую медзьвяжаціну,—заўважыў Гаттэрас.

— Так,—задуменна прагаварыў доктар. Але чаму-б нам не...

— Што вы задумалі?—пацікавіўся Гаттэрас.

— Мне прышла ў галаву думка...

— Думка? — крыкнуў боцман. — Калі вам прышла ў галаву думка, значыцца, мы выратаваны.

— Ня ведаю, як удасца,—няўпэўнена адказаў доктар.

— Што-ж вы прыдумалі?—запытаўся Гаттэрас.

—У нас няма чачавіцы, але мы яе зробім.

— Як?—пацікавіўся боцман.

— Адшліфуем з куска лёду.

— Няўжо вы думаеце...

— А чаму-б не? бачыце, трэба толькі, каб праменьні сонца былі сабраны ў адзін пункт, а дзяля гэтага лёд можа замяніць нам любы хрусталь. Толькі я хацеў-бы дастаць кавалачак праснаватага лёду, ён мацнейшы і празрысьцейшы.



— Вось, калі не памыляюся, гэта ледзяная гара,—паказаў боцман на лядзіну, якая знаходзілася шагоў за сто ад іх,— мяркуючы па яе колеры, ёсьць якраз тое, што вам трэба.

— Гэта праўда. Вазьмеце сваю сякеру. Пойдзем туды, сябры мае.

Усе ўтраіх накіраваліся да лядзіны. Сапраўды лёд быў з прэснай вады.

Доктар загадаў адсеч кавалак лядзіны і пачаў абраўноўваць яго сякерай. Пасьля ён абгладзіў яго нажом; нарэшце, па-

ступова адшліфаваў рукою. Атрымалася празрыстая чачавіца, быццам яна была з лепшага хрусталю.

Сонца было даволі яркае. Доктар навёў гэту чачавіцу на сонца і пусьціў сабраныя ў лёдзе праменьні на цэру. Праз некалькі часу цэра загарэлся.

---

Апавяданьне Жуль-Вэрна—зусім не фантастычнае: вопыты запальваньня дрэва пры дапамозе чачавіцы з лёду, у пяршыню з посьпехам выкананыя ў Ангельшчыне ў 1763 годзе, з таго часу паўтараліся не адзін раз. Зразумела, цяжкавата падрыхтаваць празрыстую чачавіцу з лёду з дапамогай такіх простых прылад, як сякера, нож і „проста рука“ (пры марозе ў 48 градусаў!),—але ўсё-ж такі і гэта магчыма.

Калі пажадаеце ўзімку зрабіць такі вопыт, не забывайцеся, што ён удаецца толькі ў ясны марозны дзень і на дварэ на сьвежым паветры.



# ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

*Халодзьву, Т., Маршаку, Лаўрыку, І. М., Катужэнцу, П., Быліну, Г., Бляхману, З., Ярошыку, Я., Школьніку, А., Воўку, Э., Падаляцкаму, Л., Баркуну, В., Курбацкаму, К., Якару, Здановічу, Я., Ксяндзову, В., Шарупічу, Б., Каліне, В., Хомчанку, Г., Салаўёву, А., Шаірку, Я., Шайкову, Я., Грыневічу, Х., Блюмкіну, Я., Бяздомнаму, Я., Ванчукевічу, Х , Кветку, Ц., Сянькоўскаму, Амельянюку, В., Есьману, Я., Зямковічу, М., Адашчыку, Ясакарку, Зьм., Мініну, С., Гэйдэку, П., Баркуну, В., Цуранову, П.*—вершы пералічаных таварышоў зьмешчаны ў часопісі ня будуць. Усе яны маюць той недахоп, што напісаны досыць слаба, не апрацаваны, нямэ найчасьцей адшліфоўкі формы. Па тэмах і па зьместу шмат якія сябе апраўдваюць, але апрацоўка іх зусім дрэнная, яны нагадваюць або просты падбор слоў, або апісаньні падзеяў, здарэньняў, заклікаsuccessivelyньняў у форме вершу. Такія вершы не захопяць чытача, і ён у іх нічога цікавага ня знойдзе. Карысьней пісаць на гэтыя тэмы прозаю ў форме допісаў і артыкульчыкаў,—на што мы і раім зьвярнуць увагу ўсім, прысылаючым вершы.

*Файтліну, Ф.*—Заметку аб нявыпісцы часопісі „БП“ вашай школай зьмяшчаць ня будзем. Паспрабуй спачатку правесьці работу па пашырэньні часопісі, выяві прычыны, чаму ў вас ня выпісваюць яе і інш. Пасьля гэтага напішы аб выніках працы. Гэта будзе карысьней.

*Казлову, Я.*—Твая дэклямацыя напісана слаба. Лепш пішы допісам.

*Эн-гу.*— „Дзіцячая мэтрыка ў вёсцы“ да друку не падышла. Напішы лепш допіс, як працуе школьнае самакіраваньне.

*Фінкіну, Ш.*—У тваім допісе „Праца яўр. школы“ вельмі агульна апісана жыцьцё школы. З яго ня відаць, як і што зроблена. Лепш бяры адзін які-небудзь бок працы і дакладна апішы.

*Ліпеню, З.*—Апавяданьняў ты пісаць ня ўмееш. Прабуй лепш пісаць допісы.

*Шарупічу, Б.*—Твае апавяд. „Цялячы гаспадар“ напісана досыць гладка, але на такую тэму ў нас друкавалася апавяданьне (гл. № 8 „Б. П.“ за 1926 г. „Стракаты“).

*Кацу, М.*—Допіс аб тым, што павінны рабіць літ. гурткі, ня пойдзе. Напішы лепш, як працуе ваш літ. гурток пры школе, калі ў вас такі ёсьць.

*Караткевічу, А.*—Раім лепш зьмясьціць свой допіс „Аб недысцыплінаванасьці вучняў“ у насьценнай газэце.

*Бунтару.*— Апавяданьне твае не распрацавана, тут дадзена толькі тэма для апавяданьня, ды і то такіх тэмаў аб гібелі забастоўшчыкаў маецца ў літаратуры шмат. Добра-ж выканаць гэту тэму з мастацкага боку табе не ўдалося.

*А. Н.*—„Пахаваньне без папа“ ня пойдзе.

---

**№ 24 „БЕЛ. ПІОНЭРА“, што выйдзе 1-га студзеня 1928 г., будзе прысьвечаны 3-гадоваму юбілею часопісі. Рэдакцыя чакае ад сваіх корэспондэнтаў матар'ялу аб юбілеі (якую карысьць дае дзецям часопісь і інш.) Шлеце допісы не пазьней 5 сьнежня.**

**ЦАНА 12 КАП.**




**Задача № 1.**

Злажы з 16-х запалак чатыры прастакутнікі, як паказана на малюнку.



Цяпер аднімі шэсьць запалак так, каб атрымаць сто. Як гэта зрабіць?

**Задача-жарт № 2.**

Што ў царскай Расіі было на першым месцы, ва Францыі на другім, у Турцыі на трэцім, а ў нашым Саюзе на апошнім?

**Задача № 3.**

Паляўнічы застрэліў качку. Падбітая качка звалілася на луг, абкружаны са ўсіх бакоў канавай.




Канава была досыць глыбокая, з прычыны чаго перайсьці праз яе было немагчыма. Выпадкова паляўнічы ўбачыў дзьве невялікія дошкі аднолькавай даўжыні, але карацейшыя, чым шырыня канавы. Ён зрабіў мост, перайшоў на луг і падняў качку.

Дагадайся, як ён гэта зрабіў?



Менск, 1-ая Дзярж. друк. Заказ № 394. У ліку 2900 экз. Галоўлітбел № 26683.